Точка зрения

# Трусость,

## или Банальный непрофессионализм опричников Сивакова и Чикина

Много говорилось и писалось в прессе о кровавых событиях на станции метро "Немига" 30 мая этого года, но, похоже, тема эта не будет до конца исчерпана, а народу никогда не будет сказана вся правда. Именно поэтому хочу высказать свое мнение о виновных в массовой гибели молодых людей. По утверждению официальных лиц и руководства МВД, для "соблюдения" порядка во время проведения "Праздника пива" и попконцерта было привлечено около 200 милиционеров, омоновцев и представителей других силовых служб.

В кульминационный момент, предшествовавший трагедии, на самом опасном участке, у входа в метро "Немига" оказалось только пять работников милиции (причем два из них были не на службе, а отдыхали с родственниками на празднике и добровольно пытались оказать помощь дежурным нарядам милиции).

Где были остальные?

Как свидетель происшествия, могу утверждать — попрятались от дождя в спецавтобусах, машинах и в здании Дворца спорта. Спрятались не от бомбежки, цунами и извержения вулкана, и даже не от вооруженной банды, а от дождя. Вдумайтесь только, три милиционера из 200 спасали ребят, и пытались остановить толпу, а остальные сбежали, не выполнив свой главный профессиональный долг — спасать людей в опасной ситуации.

Что это — трусость или банальный непрофессионализм?

Скорее последнее. Дело в том, что их никогда не учили спасать людей, — они натасканы разгонять демонстрации, избивать людей дубинками и просто "не пущать". Вот почему только 1,5 процента из них выполнили свой долг. Этот процент и можно считать коэффициентом полезного действия нашего ОМОНа 30 мая у метро "Немига".

Как гражданин своей страны твердо убежден — в этом кровавом событии есть непосредственные виновные.

Во-первых, не то место было определено для проведения массовых мероприятий. С одной стороны река, с двух других — транспортные магистрали и узкий вход в метро (прямой эффект горлышка бутылки). И, что самое главное, никто не распорядился закрыть станцию метро "Немига" на время массового мероприятия, а это не что иное, как очевидный и элементарный дилетантизм. Ведь не случайно же жители Москвы, Киева, Санкт-Петербурга и других крупных городов, где есть метро, узнав о трагедии на "Немиге", задают только один вопрос: "Как могло случиться, что станция метро на время мероприятий не была закрыта?".

Кроме того, район Немиги — исторически святое место, где покоятся кости наших предков. Поэтому там веками не селились минчане, не проводилось празднования. Да и 30 мая совпало с религиозным событием — Святая троица, когда люди должны заниматься очищением души, а не пьянством. Однако это уже нравственный, а не юридический аспект, и судить за это будет, как говорят, Бог. Правда, такие горисполкомовские чиновники, как Виктор Чикин, существующие только для того, чтобы "все запрещать", полностью лишены национальной гордости, не знают истории своей страны, так как Главная настольная книга у них — "Краткий курс истории Партии".

Во-вторых, виноваты омоновцы и милиция, которые сбежали с места трагедии и не выполнили свои прямые обязанности — обеспечить порядок и безопасность спасти молодежь. Как утверждают специалисты, для предупреждения катастрофы на "Немиге" хватило бы 40—50 профессионалов, — четверть от присутствовавших на мероприятии милиционеров и омоновцев. И что нельзя понять и простить — они предали своих пятерых коллег, оставив их без помощи против возбужденной толпы.

Убежден, что, в конце концов, виноватых все равно не окажется. Если президент во всеуслышанье заявил, что в трагедии виноват только дождь, то следователю, как добросовестному госслужащему, ничего не остается, как подтвердить этот факт, тем более что дождь действительно был.

Вот только хочется спросить у тов. Лукашенко: "Не болят ли у него 53 рубца на сердце, о которых он громогласно объявил?" Думаю, что нет, поскольку он заранее обелил виновных, защитил вольных или невольных, но преступников.

**Максим ЯСЮЛЕВИЧ, служащий.**

*Минск.*

Я так думаю

# Нельзя жить без надежды

Слышала, как говорят: детство и юность, мол, — беззаботный возраст, золотая пора: ни о чем человек не думает, не тревожится, радуется жизни, как мотылек.

Я как раз в таком возрасте, мне пятнадцать. Но сказать про себя, что совсем уж беззаботна, я не могу. Ведь я живу не в безвоздушном пространстве и вижу, что делается вокруг на нашей страдалице-земле. Как же быть слепой и равнодушной, если все, что здесь происходит, касается лично меня, моих родных, близких, друзей?

Да, жизнь нам дается один раз, и прожить ее нужно с достоинством. Но о каком достоинстве может идти речь, если многие, очень многие мои знакомые унижены бедностью, нуждой, настоящей нищетой? Как можно радоваться в несчастной стране, где в любом магазине цены доводят покупателя до потери сознания. Где зарплата и пенсии и в малой степени не соответствуют тем ценам. Где многие, как и наша семья, вынуждены отказывать себе в самом необходимом, не иметь возможности нормально питаться, одеваться — я уже не говорю о развлечениях.

Особенно жалко стариков. Война отобрала у них здоровье и молодость, послевоенные трудовые годы — остаток сил. И, выходит, ценой таких неимоверных жертв они не заработали на достойную старость? А им же нужны, кроме все прочего, дорогостоящие лекарства, хорошее медицинское обслуживание, уход.

Господи, да о чем я говорю? Разве редкость увидеть дедулю или бабулю, а то и людей помоложе собирающими пустые бутылки, роющимися в мусоре с надеждой найти хоть что-то съедобное? Как же, глядя на них, мы, молодые, можем быть беззаботными, спокойными за свое будущее?

Меня мучает вопрос: ведь взрослые люди не раз голосовали, делая свой выбор. Так зачем же так неразумно выбрали нищету, бесправие? Не только для себя выбрали, а для нас, своих детей и внуков. С этим я не могу согласиться. Не могу согласиться с тем, что многие смирились со своей бедой — абы тихо, только б не было войны. Конечно, война — самая страшная трагедия. Но наш народ страдает и сейчас, в мирное время. И на лучшее уже не надеется.

А я думаю — без надежды жить нельзя. Мы сами, молодые, выбираем свою дорогу — к справедливости, свободе, радости. Понимаю: дорога будет нелегкой. Нужно бороться за лучшую жизнь, а не тихо плакаться в уголке. И я готова бороться за свое будущее.

С уважением —

**Аня ТОЧИЛОВА, 15 лет.**

*Минск.*

Чулі?

# У бліжэйшы час магчыма ўвядзенне абавязковага 100-працэнтнага продажу валютнай выручкі на беларускай валютна-фондавай біржы

У бліжэйшы час беларускімі ўладамі можа быць прынятае рашэнне аб значным павелічэнні працэнту абавязковага продажу валютнай выручкі на таргах валютна-фондавай біржы. Як стала вядома БелаПАН, падрыхтавана некалькі праектаў указу прэзідэнта, у адным з якіх гэтая лічба даходзіць да ста. Зараз прадпрыемствы-экспарцёры абавязаныя прадаваць на біржы па заніжаным курсе 30 працэнтаў валютнай выручкі.

На думку віцэ-прэзідэнта Беларускага саюза прадпрымальнікаў Аляксандра Патупы, падрыхтоўка такога ўказу выклікана неабходнасцю закупкі за мяжой збожжа і паліўна-энергетычных рэсурсаў (ПЭР) на асенне-зімовы перыяд. Для гэтых мэт спатрэбіцца прыблізна 500 мільёнаў долараў ЗША (з іх 300 мільёнаў — для збожжа, 200 — для ПЭР). "Паколькі гэтыя закупкі — справа зусім хуткай будучыні, указ можа быць падпісаны на працягу бліжэйшых аднаго-двух тыдняў. 500 мільёнаў долараў ЗША для беларускай эканомікі — немалыя грошы. Для параўнання: увесь выраблены ў краіне ў першым паўгоддзі валавы ўнутраны прадукт не перавышае 2,2 мільярда долараў ЗША у пераліку па рынкавым курсе", — сказаў А.Патупа.

На думку віцэ-прэзідэнта БСП, павелічэнне працэнту абавязковага продажу прывядзе да негатыўных наступстваў у фінансава-эканамічнай сферы. Фактычна будзе ўведзена дзяржаўная манаполія на знешнеэканамічную дзейнасць, ліквідавана банкаўская сістэма ў частцы валютнага абароту, павялічацца маштабы ўтойвання валютнай выручкі, вырасце рынкавы курс долара. Наступнымі крокамі, на думку А.Патупы, могуць стаць забарона на хаджэнне замежнай валюты сярод насельніцтва і на выезд за мяжу.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

# Засвяціўся новы храм іканастасам

У свой час на старонках "Народнай волі" я расказваў, як у адным з былых вайсковых гарадкоў Слуцка пасля яго закрыцця святар Мікалай Коржыч, накіраваны сюды епархіяй з чарнобыльскай зоны, за адносна кароткі тэрмін з дапамогай вернікаў і грамадскасці рэканструяваў будынак закінутага салдацкага клуба і ператварыў яго ў царкву. Назву ёй вярнулі ранейшую — Свята-Касма-Даміянаўская.

А нядаўна малітоўная зала пяцікупальнай царквы з двух'яруснай званіцай па-святочнаму азарылася новым іканастасам шырынёй у дзесяць і вышынёй у пяць метраў. На ім у па-майстэрску выробленых драўляных рамах "упісаліся" васемнаццаць іконаў з адлюстраваннем лікаў Хрыста і Багародзіцы, святых Апосталаў, найбольш яркія, апісаныя ў Новым Завеце падзеі з зямнога жыцця Сына Чалавечага. Іконы па заказе святара былі напісаны ў Маскве, у адной з іканапісных майстэрань.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

*г.Слуцк.*

# Складаная сітуацыя з запасам паліва склалася ў Мазыры

Запас мазуту на прадпрыемствах жыллёва-камунальнай гаспадаркі Гомельскай вобласці складае 24 працэнты ад неабходнай колькасці. Паводле слоў начальніка абласнога ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі Уладзіміра Міхасёва, для стварэння запасаў паліва ў аб'ёме, дастатковым для працы хаця б да 10 студзеня 2000 года, яго ведамству неабходна 815 мільярдаў рублёў, а на капітальны рамонт інжынерных сетак — яшчэ 759 мільярдаў.

Найбольш складаная сітуацыя назіраецца ў Мазыры, які мае ўсяго 6 працэнтаў мазуту ад патрэбы. Як паведаміў старшыня Мазырскага гарвыканкама Іван Замулка, для закупкі неабходных 35 тысяч тон мазуту гораду патрэбна 858 мільярдаў рублёў.

Гэта значыць, да пачатку ацяпляльнага сезона горад штомесяц павінен выдаткоўваць на гэтыя мэты прыкладна па 286 мільярдаў рублёў, што немагчыма, паколькі месячны даход бюджэту складае 238 мільярдаў.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

Роздум

# Дзеля чаго жывеш, чалавек?

Выпадкова знайшоў у асабістым архіве даўні нумар івацэвіцкай газеты "Кастрычнік" за верасень 1991 года. Сёння ўжо не верыцца, што афіцыйная раённая газета магла апублікаваць такое. Але ж быў час... Час падзеяў, час уздыму, час веры, што наша жыццё, нарэшце, зменіцца ў лепшы бок. У бок праўды, у бок справядлівасці, у бок нацыянальнага адраджэння.

Сёння, беручы ў рукі старыя нумары рэспубліканскіх газет "Советская Белоруссия", "Знамя юности", "Звязда", не кажучы ўжо пра "Народную газету", таксама не верыцца, што некалі яны друкавалі вялікія, амаль на старонку, артыкулы і інтэрв'ю Зянона Пазьняка, Юрася Хадыкі, іншых сумленных людзей Беларусі. Сапраўды, то быў час надзей. Надзей на добрае.

І ўсё гэта раптам абрынулася ў прорву. Наступіў час, якому нават цяжка даць вызначэнне. Усё быццам перавярнулася з ног на галаву. Законы ператварыліся ў "высочайшие" ўказы і дэкрэты, а на ахову іх пастаўлены яго вялікасць гумовы "дэмакратызатар". На фоне сапраўднай галечы большасці беларусаў распачаліся бясконцыя "пиры во время чумы" пад эгідай розных фестываляў, шоу, базараў, "дажынак" і г.д. Святкавалі занядбаныя, падманутыя яшчэ ў савецкую эру, адурманеныя людзі. Няхай у дзень свята яны паздымалі з сябе зашмальцаваныя фуфайкі, гумовыя ды кірзавыя боты. Але пры іх засталіся іхнія парэпаныя, чорныя ад холаду і зямлі рукі, зрэзаныя ад паўсядзённых клопатаў і беспрасветнай працы глыбокімі маршчынамі твары. Няўжо і на самай справе ва ўсе часы людзям хацелася толькі "хлеба и зрелищ!"? А як быць з пачуццём чалавечай і нацыянальнай годнасці, з уласнай гісторыяй, роднай мовай?

Некалі я быў журналістам з вышэйшай партыйнай адукацыяй. І работа складвалася, і чытачы добра ўспрымалі многія мае публікацыі. Прызнаюся, за некаторыя з іх мне сёння сорамна, вельмі сорамна. Ды не ў гэтым справа. І раней я чуў, што журналістыка — "старажытная прафесія". Накшталт той, што датычыцца жанчын вядомых паводзінаў. Апошнія мо не бачылі іншага выйсця, каб пражыць, каб выжыць. Але некаторыя сённяшнія журналісты?.. У іх жа ёсць рукі, ногі, галава, іншымі словамі, не памерлі б яны з голаду. Ды не: спадобіліся тым жанчынам, абы толькі мець свой кавалак булкі з маслам. Апраўдваюць беззаконне, гвалт, што пануюць у краіне, здачу яе незалежнасці суседняй дзяржаве.

Няўжо так танна каштуе чалавечае сумленне, пачуццё ўласнай годнасці? Я, былы газетчык, а сёння качагар не пытаю такіх журналістаў, якія здольны на бессаромную хлусню. Мне сорамна за іх, як сорамна за многіх пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, дыктараў, настаўнікаў, медыкаў, інжынераў, якія дзеля ўласнага дабрабыту і спакою не думаюць пра заўтрашні дзень Беларусі, не трывожацца за яе лёс і лёс будучых пакаленняў. Як можна так жыць? Не ўкладваецца ў галаве.

...Я перачытваю свой артыкул, надрукаваны сем гадоў таму, і ўспамінаю, як тады выскачыў з залы, дзе праходзіла раённая нарада, каб прасіць прабачэння ў асвістанага лектара, які шчыра хацеў данесці яшчэ нязвыклую для многіх праўду пра вучэнне Маркса — Энгельса — Леніна. Я хацеў папрасіць прабачэння за тую нашу "інтэлігенцыю", якую Васіль Гроднікаў назваў "чэрню". Мне хацелася, каб прыезджы лектар не думаў дрэнна пра ўвесь наш раён, бо "партыйна-гаспадарчы актыў" — яшчэ далёка не ўсе жыхары краю.

Колькі сябе помню, я задумваўся над тым: чаму чалавек так лёгка губляе свае лепшыя чалавечыя якасці? Разменьвае іх на кватэры, пасады, аклады, на, як яму думаецца, "павагу" начальства. Міжволі ўспамінаюцца радкі Я.Яўтушэнкі: "Как часто выраженье "вышел в люди" обозначает: от людей ушел". І такое мы бачым на кожным кроку. Асабліва сёння. Не палохаюць такіх людзей ні будучыя папрокі нашчадкаў, ні Боскі суд.

А будзе, абавязкова будзе і тое, і другое. Дарэмна мы спадзяёмся на іншае, ой як дарэмна.

Дзеля чаго жыве чалавек? Варта аб гэтым часцей думаць. Я гляджу з замілаваннем на бел-чырвона-белы сцяг на сцяне майго пакоя з прымацаваным да палотнішча знакам Першага з'езду беларусаў свету, на якім нашчасціла пабыць, на выяву "Пагоні" і думаю: "Усё ж гэта, святое для нас, беларусаў, вернецца. Абавязкова вернецца". Крыўдна, нават вельмі балюча будзе, калі гэты светлы час не сустрэнуць вялікія беларусы Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Сяргей Грахоўскі і іншыя славутыя сыны бацькаўшчыны. Не, яны абавязкова павінны дажыць да "залацістага, яснага дня", які прадказваў нам яшчэ адзін вялікі беларус Максім Багдановіч.

А можа, дзе яшчэ ёсць адна Беларусь? І там жывуць Усяслаў Чарадзей, Вітаўт Вялікі, Францішак Скарына, Францішак Багушэвіч, Кастусь Каліноўскі, Тадэвуш Касцюшка, Янка Купала, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш, многія-многія іншыя беларусы, якія свае ўласнае шчасце бачылі ў адраджэнні Бацькаўшчыны? Можа, і так, бо гэтыя людзі не маглі знікнуць бясследна. Як не зніклі і не знікнуць ніколі Уладзімір Караткевіч і Алесь Адамовіч, Пімен Панчанка, і Максім Танк...

Цяжка, вельмі цяжка жыць толькі марай пра сапраўдную Беларусь — суверэнную, дэмакратычную, еўрапейскую, са сваёй мовай, гісторыяй, са сваім гонарам. Хочацца не ў марах, а наяве бачыць такую Беларусь. Жыць у ёй хочацца. І каб жылі ў такой Беларусі яе лепшыя сыны і дочкі, у каго за плячыма не адзін дзесятак гадоў. Хочацца, каб кожны з нас з гонарам казаў: "Я — за вольную Беларусь!".

**Мікалай РЫМАЧ.**

*г.Івацэвічы.*

Рэха

# Не палохайце нас Польшчай

Паважаная рэдакцыя!

Артыкул І.Кузняцова "Осень 1939-го: как это было" вымусіў мяне даслаць Вам і мае разважанні. Яны больш датычаць аспекту сувязі мінулага з сучаснасцю.

Я настаўніца гісторыі, аспірантка пры БДПУ імя М.Танка, і тэма маёй дысертацыі датычыць перыяду падзелаў Рэчы Паспалітай. У сувязі з гэтым многа месяцаў правяла ў Польшчы, нядрэнна ведаю краіну і яе людзей з розных слаёў грамадства.

Я зараз не хачу ды і не магу паўтараць звесткі з падручнікаў гісторыі аб тым, які лёс напаткаў народы Рэчы Паспалітай, захопленай у канцы XVIII ст. суседнімі дзяржавамі — Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Хаця гэтая тэма вельмі актуальная для сённяшняга дня і падзеі тых часоў працягваюць уплываць на наша сённяшняе жыццё і свядомасць куды больш, чым падзеі гісторыі навейшай. Бо менавіта тады ўтварылася сітуацыя несправядліва навязанай нам залежнасці ад суседняй дзяржавы.

Калі гаварыць аб артыкуле І.Кузняцова, то ён малюе карціну хоць і вызначальнага, але вельмі кароткага перыяду ў гісторыі Польшчы, калі Савецкі Саюз папіраў усе нормы міжнароднага права, губіў і здзекваўся з соцень тысяч цывільных і ваенных грамадзян Польшчы, не прызнаючы ні ўкладу гэтай краіны ў барацьбу супраць фашызму, ні ўвогуле права на існаванне гэтай краіны.

Дарэчы: Польшча была адзінай з заходне- і цэнтральнаеўрапейскіх краін, у якой не было калабарацыяністскага прагітлераўскага ўраду, а загінуў там ад рук фашыстаў таксама кожны чацвёрты чалавек. Ды яшчэ лагераў смерці на тэрыторыі Польшчы было больш, чым на нашай тэрыторыі. Палякі як суседні з немцамі славянскі народ былі асабліва ненавідзімыя Гітлерам. І якія ж трэба было мець Польшчы мужнасць і вынослівасць, каб праводзіць у перадваенныя і ваенныя часы ўласную палітычную лінію!

А Польшча ж усяго толькі і была "вінаватая" ў тым, што пасля больш чым стагадовай няволі змагла адстаяць сваю незалежнасць. Што знайшліся людзі, якія, разлічваючы на свой народ, настроі якога добра ведалі, здолелі выкарыстаць пасляваенную сітуацыю 1918 года, апеляваць да міжнародных інстанцый і такім чынам адстаяць права на незалежнасць іх старажытнай краіны, часткі і прадаўжальніцы Рэчы Паспалітай, легітымнай сярэдневяковай дзяржавы, раўнапраўнай з усімі тагачаснымі краінамі Еўропы.

Вось бы нам такія мужнасць і спрыт, такое ўсведамленне небяспекі страціць сваю Радзіму і сваю мову! Нам бы такое ўменне змагацца і дабівацца свайго!

Але нас дасюль палохаюць ужо адны толькі асуджальныя позіркі або выказванні ў бок Польшчы. Традыцыйны савецкі стасунак да Польшчы як да "белапанскай прыгнятальніцы" працоўных, "хітрай ведзьмы". А Польшча ж ніводнага свайго вязня ў Сібір не саслала, а такое палітычнае злачынства, як пераход мяжы паміж Савецкай і Заходняй Беларуссю, якое ў СССР каралася смерцю або катаргай, у Польшчы каралася некалькімі месяцамі турэмнай адсідкі.

Падобна на тое, што такога "тытулу" ў нас заўсёды заслугоўваў той, хто думае і дзейнічае самастойна. Польскія палітыкі сёння шукаюць найбольш аптымальныя шляхі развіцця краіны, ім нельга паставіць у віну бяздзейнасць і абыякавасць да лёсу свайго народа. Не перарвана традыцыйная сувязь рэлігіі з дзяржавай, і, відаць, Бог блаславіляе сённяшнюю Польшчу. Яна ідзе наперад, яе людзі сардэчныя, міласэрныя і свядомыя, моладзь Польшчы адчувае апеку і клопаты дзяржавы, не мае зацятасці і падазронасці да іншых нацый.

Мне прыкра, што некаторыя нават з беларускіх калег-навукоўцаў у гэтым сэнсе адрозніваюцца ад звычайнага польскага абывацеля ў горшы бок. Гэта значыць, што замест уважлівасці і цікавасці да гэтай краіны, да шляхоў яе развіцця спрабуюць адразу адмахнуцца і выставіць застарэлыя і ў многім неактуальныя гістарычныя прэтэнзіі: аб меўшых некалі месца непаразуменнях і нацыянальным прыгнёце, аб паланізацыі праз касцёл, стараючыся ўсяляк даказаць, што мы ва ўсім лепшыя, што мы пакутнікі і ў першую чаргу — пакутнікі ад Захаду.

Што ж, паходжанне такога светапогляду мае свае вядомыя прычыны. Прыкра толькі, што пад яго падпадаюць не толькі малаадукаваныя людзі, якія ў адрозненне ад польскага электарату не навучаны шукаць гістарычную повязь фактаў (ды і ведаць гэтыя факты), але і калегі-навукоўцы, заканадаўцы гістарычнай думкі.

Я асабіста бачу ў польскім гістарычным шляху развіцця падказку для нас, беларусаў: як магла б працякаць наша ўласная барацьба за незалежнасць ад Расіі, якія выпрабаванні чакаюць наш народ, калі б ён сёння раптам усур'ёз вырашыў узяць лёс беларускай незалежнасці ў свае рукі (бо тая "незалежнасць", якая ёсць сёння, — несур'ёзная). І гэты шлях — трэба прызнаць — ніякім чынам не выглядае прывабным у вачах сярэднестатыстычнага беларуса. Бо барацьба за незалежнасць ад краіны з імперскай палітыкай, разуменнем толькі сваіх інтарэсаў — гэта ва ўсе часы цяжкая барацьба, яна не абяцае лёгкай перамогі нашым нашчадкам. Ды і знявага, цкаванне за малейшае супраціўленне наканавана кожнаму паасобку і дзяржаве, гісторыі ў цэлым, як гэта было наканавана Польшчы. Ці не ад усведамлення гэтага спіць сном хворага наш народ, дакладней кажучы, тая яго частка, якая мае гістарычныя карані, адчувае сябе беларусамі і мае пачуццё Радзімы?

Нашы продкі, грамадзяне Рэчы Паспалітай, якія жылі 200 год таму, мелі мудрасць не насаджаць варожасць паміж народамі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, а, наадварот, знаходзілі супольныя стваральныя тэмы: яны, хоць і называлі грамадзян усёй краіны палякамі, прапагандавалі гістарычныя веды і гуманнасць. Вядомы кампазітар і дзяржаўны дзеяч Міхал Клеафас Агінскі ў 1826 г. адкрываў свае "Мемуары аб Польшчы і паляках" такімі словамі:

"Час адкрые праўду і абнародуе яе раней ці пазней у творах, якія выйдуць у свет і для якіх не адзін даследчык назбірае багатыя матэрыялы ў глыбіні свайго зацішша. Тады, як толькі пройдуць ілюзіі, можна будзе без забабонаў вызначыць як прычыны, так і вынікі, толькі тады можна будзе лёгка знайсці тлумачэнне ўсяго таго, што сёння здаецца незразумелым. Згодна з гэтым нашчадкі вынесуць прысуд характарам нацый; выдадуць сваё меркаванне аб розных уяўленнях, якія іх раздзялялі; адрозняць вялікага чалавека ад узурпатара, буйнога патрыёта-фанатыка — ад таго, хто здаецца такім толькі з-за сваёй пустаты і амбіцый, сумленнага чалавека — ад таго, які толькі насіў маску сумленнасці, і прызначаць кожнаму, хто выступаў у апошні час, месца, якое той заслужыў.

Сярод народаў, якія асабліва вызначыліся сваёй мужнасцю у выпрабаваннях лёсу і вытрымкай, палякі, бясспрэчна, заслугоўваюць выдатнага месца. Я не гавару аб тых паляках, якія ў самыя старажытныя часы прымушалі дрыжаць суседзяў сілай свайго мяча; я не затрымліваюся на тых эпохах, калі Польшча была адной з найбольш значных манархій Еўропы; я не буду называць тых каралёў, імёны якіх увайшлі ў памяць нашчадкаў ці то праз ваенныя подзвігі, ці то праз мудрасць іх навоўвядзенняў, ці то праз апеку над сялянствам, ці то праз заснаванне трыбуналаў і арганізацыю службы юстыцыі, ці то праз спрыянне навукам і мастацтвам. Я таксама не маю намеру называць вялікіх дзяржаўных дзеячаў і вялікіх палкаводцаў, якія праславілі Польшчу ў папярэднія вякі, і абміну маўчаннем імёны вучоных, гісторыкаў, прамоўцаў і славутых паэтаў, якімі гэты край можа ганарыцца.

Я гавару тут толькі аб паляках, якіх мог ведаць на працягу апошніх пяцідзесяці год, прыгнечаных, падвержаных праследаванням, пад уціскам суседзяў, пазіраючых на сваю краіну, якую непакоілі грамадзянскія войны, а ворагі яшчэ больш іх раздувалі, каб падзяляць, аслабляць і поўнасцю знішчыць. Я гавару аб тых паляках, якія, убачыўшы сваю радзіму разарванай на кавалкі і канчаткова знікаючай з шэрагу еўрапейскіх вялікіх дзяржаў, не перасталі яе, нягледзячы на гэта, любіць і жадалі жыць толькі для таго, каб уваскрасіць яе з небыцця..." (з "Уступу" да "Мемуараў").

Міхал Клеафас Агінскі жыў 200 год таму, ён быў сучаснікам падзелаў Рэчы Паспалітай і бачыў свет вачыма высокаадукаванага чалавека, патрыёта, нашчадка французскіх асветнікаў. Тым не менш у яго выказваннях няма неабгрунтаванай агрэсіўнасці, недаацэнкі нейкіх з'яў і падзей, ён ствараў сваю музыку і літаратурныя творы з пазіцыі любові і болю за згубленую Радзіму.

Чыімі вачыма бачым гісторыю і сучаснасць мы?

**Таццяна КЛЯШЧОНАК, настаўніца.**

*г.Смаргонь.*

# Цэнтр даверу "Надзея і вылячэнне" ажыццяўляе праект антыалкагольнай прапаганды на беларускіх прадпрыемствах

Грамадская арганізацыя Цэнтр даверу "Надзея і вылячэнне" распачала ажыццяўляць праграму антыалкагольнай прафілактыкі на беларускіх прадпрыемствах.

Удзельнікі гэтага праекту спадзяюцца распаўсюдзіць у краіне вопыт міжнароднага аб'яднання "Армада", дзе сабраліся прамыслоўцы, якія вядуць барацьбу з алкагалізмам на вытворчасці. Паводле слоў старшыні праўлення Цэнтра Станіслава Каўрова, польскія заводы, дзе беларусы перайма́лі вопыт "Армады", за пяць гадоў дабіліся зніжэння да нуля колькасці звальненняў работнікаў з-за п'янства. Такім чынам, для прадпрыемства прафілактыка алкагалізму аказваецца больш выгаднай, чым падрыхтоўка новых кадраў узамен звольненых, паколькі часта співаюцца якраз лепшыя з прафесіяналаў.

Першым прадпрыемствам, дзе ў бліжэйшыя дні адкрыецца антыалкагольны кансультацыйны пункт, стане мінскае вытворчае аб'яднанне "БелВАР", на чарзе — завод "Ударнік".

Арганізатары гэтага праекту — людзі, якія падтрымліваюць праграму таварыства Ананімных алкаголікаў і, у большасці сваёй, маюць асабісты вопыт пераадолення алкагалізму. Яны маюць намер навучыць заводскіх кіраўнікоў — ад майстра да дырэктара прадпрыемства — выяўленню патэнцыяльных алкаголікаў, інфармаваць тых, хто "культурна п'е", пра рэальную небяспеку алкаголю, садзейнічаць п'яніцам у пазбаўленні ад дрэннай звычкі. Алкаголікам жа прапануецца магчымасць вылячэння шляхам удзелу ў праграмах груп "Ананімных алкаголікаў".

**Марына КУНОЎСКАЯ.**

Признание

# Я люблю тебя, Беларусь!

Мне 17 лет. Я белоруска, но, к стыду, не слишком хорошо владею родным языком. Выросла я на русской культуре — воистину великой, неотъемлемой от нашего духовного мира.

Но это вовсе не значит, что я готова отречься от всего белорусского и радоваться, что суверенитет Беларуси ее правителями отдается задаром соседней России. Я против того, чтобы белорусов считали и сделали чьими-то холопами, презрев их самобытную историю и культуру, вековечное стремление "людзьмі звацца". Я против того, чтобы нашей милой, красивой землей не любовались, а вытирали о нее сапоги по дороге в Европу. Я против того, чтобы один человек, пусть и на очень высоком посту, решал судьбу нынешнего и будущего поколений, определял, кем им быть и где жить, гражданами какого государства являться.

Мне только 17 лет. Но я готова к тому, чтобы отстаивать свою любимую Батьковщину, защищать от тех, кто хочет сделать ее игрушкой и разменной монетой в хищных руках.

Я люблю тебя, Беларусь! Я хочу кричать об этом на весь мир. Но я тихо шепчу это признание и верю: ты услышишь меня.

**Дарья КОРОЛЬ, белоруска.**

*Гомель.*

# Дожили!

Вот такие, почти пустые, полки сельского магазина в одной из деревень Минской области. Не лучше выглядят многие магазины и других регионов.

Фото IREX/ProMedia.

# Паводле слоў віцэ-прэм'ера Б.Батуры, напярэдадні зімы краіне неабходна 82 трлн. рублёў эмісійных грошай, але рэальна можна разлічваць толькі на 42 трыльёны

Для таго, каб паўнацэнна падрыхтаваць краіну да зімы, неабходна 82 трыльёна рублёў эмісійных грошай — пра гэта заявіў віцэ-прэм'ер урада Беларусі Барыс Батура, выступаючы на пасяджэнні Гомельскага аблвыканкама. Разам з тым, паводле яго слоў, такі аб'ём эмісіі немагчымы, рэальна можна казаць толькі пра 42 трыльёны рублёў.

Барыс Батура заявіў, што ўраду вядомыя тыя праблемы па падрыхтоўцы да зімы, якія рэгіёны не могуць вырашыць з-за недахопу фінансавых сродкаў, закладзеных у бюджэце. Самыя складаныя з іх — фарміраванне запасу паліва, а таксама капітальны рамонт фонду жылля і аб'ектаў сацыяльнага прызначэння. Віцэ-прэм'ер паведаміў, што Савет міністраў на сваім пасяджэнні збіраецца разгледзець пытанне аб унясенні змяненняў у дзяржбюджэт, дзе, хутчэй за ўсё, будуць улічаныя патрэбы абласцей.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

Жизнь как она есть

# Судья постановила: 13-летнюю девочку вселить в одну комнату с 40-летним холостяком-пьяницей...

*"Вступившее в законную силу решение суда обязательно для всех государственных, кооперативных, общественных предприятий, учреждений, организаций, должностных лиц и граждан". Так гласит статья 14 Гражданского процессуального кодекса. Но что делать должностным лицам, если суд принял невыполнимое или абсурдное решение?*

...В 12 лет Настя осталась круглой сиротой. В октябре 1998 года умерла мама, а отца у девочки как бы и нет, поскольку рождена она вне брака. У малышки не было папиной спины, за которую можно спрятаться, но имелась крыша над головой: со дня рождения юная белорусская гражданка проживала в двухкомнатной квартире по улице Гая в Минске.

Восемь лет назад мама вышла замуж и привела этого мужчину в их квартиру. Разрешения у Насти на прописку мужа в силу младенческого возраста дочери она не спрашивала.

"Молодожены", предавшись веселью в медовый месяц, из загула так и не вышли. Начали продавать нажитое Настиной мамой добро. Когда же вещи были пропиты, взялись за квадратные метры. Двухкомнатную квартиру по ул.Гая, получив солидную доплату, поменяли на однокомнатную по улице Орловской. При этом мать и отчим согласия Настиного на ухудшение ее жилищных условий тоже не спрашивали.

Деньги кончились, и через три года однокомнатную квартиру меняют на комнату по улице П.Глебки, получив на этот раз доплату в 2000 долларов. Насте было уже девять лет, но ее согласия вновь не спросили.

Пропили те доллары — стали искать другие. В сентябре 1998 года делают очередную операцию: комнату в Минске меняют на дом в одной из деревень Несвижского района, получив при этом доплату в 1000 долларов. Согласия Насти и на этот раз не спрашивают, хотя ей уже 12 лет.

Через месяц после переезда в деревню мать умирает...

Все эти годы девочка влачила полуголодное существование: мать и отчим неделями не выходили из запоя. Не умерла Настя с голоду лишь благодаря сердобольным соседям. Государственных дядей и тетей страдания девочки не интересовали. Школы, районные комиссии по делам несовершеннолетних, органы социальной защиты мер не принимали, ограничившись лишь постановкой семьи на учет как неблагополучной. А милиция реагировала только на нарушение матерью и отчимом общественного порядка, привлекая их к ответственности за административные правонарушения: мелкое хищение, мелкое хулиганство, появление на улице в пьяном виде.

В деревенскую школу Настя не ходила — пасла коров, чтобы хоть как-то заработать на существование. Отчим, который Настю так и не удочерил, после смерти жены вернулся в Минск, поселился у сестры по улице Нововиленской, а падчерицу отправил в детдом.

Сейчас Настя сыта, одета, обута, посещает школу. Но... она лишилась жилища. Муж ее покойной матери вдруг пожалел сиротку и... подал в суд иск о признании последнего обмена жилья недействительным. В марте 1999 года судья Фрунзенского района г.Минска Татьяна Кулакова, исходя из того, что ущемлены имущественные права несовершеннолетней Насти, иск этот удовлетворила, договор мены признала недействительным и постановила вернуть все в исходное положение.

В соответствии с законом решение суда подлежит выполнению. Но кто и как данное решение будет выполнять? Например, пункт 3: **"Вселить Николая Ивановича В. и несовершеннолетнего ребенка Анастасию Вячеславовну П. 1986 года рождения в комнату размером 17,91 кв. метра в квартире N. в доме N. по ул.П.Глебки в г.Минске".**

Во исполнение данного пункта постановления судьи Кулаковой соответствующие должностные лица обязаны вселить 13-летнюю Настю в одну комнату с чужим ей 40-летним холостяком-пьяницей. Однако этот мужчина права на проживание с Настей в одной комнате не имеет. Он не удочерил девочку, не установил над ней опеку, не стремится взять несовершеннолетнюю дочь своей покойной жены на содержание.

Но даже если вдруг этот человек и воспылает желанием позаботиться о сиротке, так ведь по нашим законам удочерить или стать опекуном Насти он никак не может, поскольку не имеет постоянного источника дохода, зато имеет репутацию, запятнанную пьянством и воровством. По рассказам соседей по минской квартире, он наливал падчерице вино и бил ее покойную мать.

Судья Кулакова признала недействительной лишь последнюю жилищную сделку. Но ведь и все предыдущие обмены жилья также нарушали имущественные права несовершеннолетней Насти. Можно только приветствовать судью, защищающую права сироты. Но какое отношение к Настиной комнате имеет этот чужой для нее мужчина? Кто он ей?

Собственных квадратных метров примак этот не имел. И если покойная Светлана В. бездумно транжирила свою жилплощадь, то Николай В. продавал квадратные метры Настиного жилья. Формально все жилищные обмены проводила мать несовершеннолетней девочки, потому как отчим юридически не имел на то права. Он лишь пропивал Настино наследство. Как установил суд, Николай В. находился в нетрезвом состоянии и при осмотре дома перед обменом, и при переезде в деревню. Ему было все равно, куда ехать — лишь бы дали деньги на выпивку. Дали, аж 1000 долларов. Можно ли после этого утверждать, что права примака нарушены? И по какому закону в комнату 13-летней сироты можно вселять одинокого мужчину, тем более со столь низкими моральными качествами?

В мае 1999 года странное (а иначе не скажешь) решение судьи Кулаковой вступило в законную силу, и должностные лица государственных структур приступили к действию. Начальник ЖЭС-37 Фрунзенского района Юрий Липницкий, заведомо зная, что Николай В. не платил за комнату и электроэнергию все четыре года прежнего в ней проживания и скорее всего не будет платить в будущем, оформляет лицевой счет и прописывает этого пьяницу на жилую площадь сироты. Мнение 13-летней Насти по-прежнему не учитывается. Но одно дело, когда не спрашивает согласия родная мать, и совсем иное, когда это делают дяди и тети из государственных органов.

Участковый, лейтенант Юркевич, лично привел Николая В. для вселения в комнату. Но воспротивились соседи по квартире, так как этот истец, в соответствии с пунктом 4 постановления судьи Кулаковой, должен вернуть 240 миллионов белорусских рублей, полученных при обмене. От которых самой Насте не досталось ни гроша. Так же, как и от всех предыдущих продаж ее квадратных метров.

Бездумных исполнителей из ЖЭС-37 и Фрунзенского РОВД не остановило и то, что сей "пострадавший" не уплатил, в соответствии с пунктом 5 постановления судьи Кулаковой, даже пошлину в размере 12 миллионов рублей.

Настя П. пока находится в детском доме. Неужели найдется исполнитель, который поселит несовершеннолетнюю девочку вместе с этим пьяницей? Это же абсурд! Соседи говорят, что даже когда участковый приводил Николая В. вселять в комнату, тот был нетрезв!

Но если оставить Настю в детском доме и вселить лишь Николая В., то это будет противоречить решению суда: Татьяна Кулакова постановила вселить их именно вместе.

Неужели и вышестоящий суд не прекратит этот театр абсурда?

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**

Народная Воля

24 ЖНІЎНЯ 1999г.

**Мир культуры**

## "Киношок"

С 5 по 15 сентября в Анапе будет проходить открытый фестиваль кино стран СНГ и Балтии "Киношок". Жюри основного конкурса возглавит писатель Андрей Битов. В программу включены полнометражные фильмы, снятые в Беларуси, Грузии, Казахстане, Таджикистане, Эстонии и на Украине. Россия представлена картинами "Небо в алмазах" Василия Пичула и "Поклонник" Николая Лебедева.

## Балтийский дом

С 27 сентября по 6 октября в Петербурге пройдет девятый международный театральный фестиваль "Балтийский дом". Он откроется спектаклем "Макбет" литовского театра Менофортас в постановке Эймунтаса Некрошюса. Помимо литовских и российских театров будут также представлены итальянский театр Понтедера со спектаклем "Обломов", "Венецианский купец" Камерного венгерского театра, "Вишневый сад" Нового театра из Финляндии и другие.

## Пентагон и Голливуд объединили усилия

Пентагон объединил усилия с Голливудом в проекте создания симуляторов для обучения солдат. Министерство обороны подписало контракт с Университетом Южной Калифорнии об учреждении института по найму голливудских актеров для создания виртуальной реальности, имитирующей боевые условия и конфликтные ситуации. Стоимость контракта - 45 миллионов долларов.

## Бардо протестует против жестокого обращения с животными в Китае

Бывшая французская киноактриса Бриджит Бардо, активистка движения в защиту животных, направила составленное в резких выражениях письмо президенту Китая Цзянь Цземину. В письме, которое опубликовано во французской прессе, Бардо протестует против жестокого обращения с животными в КНР, характеризуя китайский народ как "жестокий и извращенный", "лишенный каких бы то ни было чувств по отношению к животным". Речь идет об использовании органов редких животных для изготовления приворотных и лекарственных средств.

## Закрыт на реставрацию "Алтарь мира"

Знаменитый "Алтарь мира" в Риме, воздвигнутый императором Августом, закрыт на реставрацию, которая продлится более года. Американский архитектор Ричард Майер планирует воздвигнуть над алтарем новый стеклянный павильон. Алтарь расположен напротив мавзолея Августа.

**Эврика!**

## Курение и инсульт

Даже пассивное курение может серьезно повышать риск нарушений мозгового кровообращения. К такому выводу пришли новозеландские медики из Оклендского университета, опубликовавшие свою работу в журнале Tobacco Control. Как считают Рут Бонита и ее сотрудники, постоянное пребывание в накуренных помещениях почти вдвое увеличивает вероятность инсульта у некурящих.

## Эксперимент испанских физиологов

Гамбургский журнал Geo рассказал об экспериментах испанских физиологов, которые ведут к возможности лечения болезни Паркинсона хирургическим путем. При этом заболевании резко снижается секреция дофамина — одного из важнейших нейромедиаторов. Сотрудники Севильского университета, возглавляемые Хосе Лопесом-Барнео, решили воспользоваться тем, что дофамин могут синтезировать и некоторые периферические нервные узлы. В мозг подопытных крыс и обезьян с синдромом паркинсонизма подсадили клетки из их собственного нервного узла около сонной артерии. Через три месяца после операции состояние животных значительно улучшилось. Клинические испытания нового метода могут начаться уже через несколько месяцев.

**24 августа — День независимости Украины**

# Киев с надеждой смотрит на Европу

В августе 1990 года народ Украины встал на путь образования независимого государства. Декларацией о государственном суверенитете, которая была принята 16 июля 1990 года, была определена историческая перспектива — строительство демократического правового государства. 24 августа 1991 года Верховная Рада провозгласила государственную независимости Украины, которая была подтверждена на всенародном референдуме 1 декабря 1991 года 80 процентами голосовавших.

Чрезвычайный и Полномочный посол Украины в Республике Беларусь Анатолий Андреевич ДРОНЬ на пресс-конференции для журналистов отметил, что "основным достижением Украины во внутриполитической сфере за восемь лет ее независимости можно назвать политическую стабильность в обществе, обновление властных структур путем общих, открытых и честных выборов, принятие Конституции, которая закрепила приоритет демократических ценностей".

Социальное-экономическое положение на Украине, как отметил Анатолий Дронь, остается сложным. "Хотя мы уверены, — заверил посол, — что Украина прошла самые плохие времена". Постепенно начали расти реальные доходы населения. За семь месяцев этого года на Украине получен прирост объемов промышленного производства — 0,3%. В июле этот показатель составил 2,2%. Стабильно растут объемы производства в цветной металлургии, в перерабатывающей, пищевой и деревообрабатывающей промышленности. В этом году была преодолена негативная тенденция превышения темпов роста цен над темпами инфляции. Индекс инфляции с начала года составил 107,5%, а индекс цен производителей — 106,8%.

Несмотря на сложную экономическую ситуацию, отметил Анатолий Дронь, поток иностранных инвестиций на Украину не уменьшился. В этом году он составил 637 миллионов долларов.

Проблемой из проблем для Украины является сокращение задолженности по заработной плате и пенсиям. За семь месяцев этого года долг перед работниками, финансируемыми из местных бюджетов, сократился на 16%, из государственного бюджета — на 5%. Средняя заработная плата на Украине за первое полугодие 1999 года составила 181 гривну (около 45 долларов), а в промышленности — 223 гривны (около 55 долларов), средний размер пенсии — 56 гривен(14 долларов). В июле цены снизились на 1%, и впервые за историю независимой Украины была зафиксирована дефляция.

Главным приоритетом внешней политики, по словам господина посла, является интеграция в Евросоюз и приобретение ассоциированного членства в нем. Участие Украины в программе "Партнерство ради мира" было одной из составных сотрудничества с НАТО, направленного на усиление стабильности и безопасности в Европе.

"Отмечая восьмую годовщину своей независимости, — отметил Чрезвычайный и Полномочный посол, — Украина уверенно смотрит в будущее, которое неразрывно связано с будущим европейской семьи народов".

**Анна СОУСЬ.**

**На снимках:** *самолеты украинских авиастроителей — воздушный гигант "Мрия" с "Бураном"; Киево-Печерская лавра.*

**Погляд**

## Мы — дзеці адной маці

Памятаецца, на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі А.Лукашэнка гаварыў аб важнасці стабільнасці ў краіне. Вось яго словы: "...у нас у грамадстве ўстанавілася кволая раўнавага, сацыяльны мір, і я хачу і імкнуся ўмацаваць яго". І далей: "Мы нацыю ледзь не раскалолі па моўным прынцыпе...". "БНФ па моўным прынцыпе падзяліў людзей на "свядомых" і "несвядомых". Па гэтай прычыне пачалося сапраўднае процістаянне, раскалолася нацыя. І я абавязаны быў спытаць у народа, на якой ці на якіх мовах яму гаварыць. Так што гэты раскол парадзіў не прэзідэнт, а "ваяўнічы фронт".

Добра разважыўшы, прыходжу зусім да іншых высноў. Сапраўды, нацыя па моўным пытанні раскалолася, але ў гэтым ніякай віны БНФ няма, хаця ён і быў галоўным рухавіком нацыянальнага адраджэння напачатку 90-х гадоў. Гісторыя ў той час давала нам яшчэ адзін шанц, як і ў 20-я гады, — ажыццявіць беларусізацыю, вярнуцца да сваіх каранёў і выратаваць нацыю ад канчатковай русіфікацыі. Гэта было магчымым праз рэальнае зацвярджэнне беларускай мовы ў Канстытуцыі і Законе аб мовах як адзінай дзяржаўнай, паўсюднае яе пашырэнне — у школах і вну, у службовай сферы.

Але ў 20-х гадах гэты працэс быў перарваны бальшавіцкай уладай, носьбіты нацыянальнага адраджэння — рэпрэсіраваны. Цяперашняе беларускае Адраджэнне спыніла сённяшняя ўлада, спыніла рукамі пражываючых тут расійцаў і зрусіфікаваных беларусаў праз ініцыяваныя прэзідэнтам рэферэндумы. У выніку наша нацыя страціла перспектыву адрадзіцца, бо працэс русіфікацыі зараз ідзе поўным ходам — шляхам інтэнсіўнага пераводу на рускамоўнае навучанне школьнай і студэнцкай моладзі, праз дзяржаўны друк, адкрытае выцясненне беларускай мовы з усіх сфер у грамадстве.

Яшчэ большы штуршок падзелу грамадства дала апантаная палітыка безагляднай інтэграцыі Беларусі і Расіі, імкненне нашага прэзідэнта ўтварыць адзіную славянскую дзяржаву. Для адных гэта — "светлое великое дело единения наших народов" (А.Лукашэнка). Для другіх — гістарычная несправядлівасць, трагедыя, якая не сёння пачалася. Супраць яе нашы продкі не адзін раз уздымаліся на барацьбу. У розных формах адбываецца яна і цяпер.

Раскалоліся людзі і ў адносінах да дзяржаўнай сімволікі, новай Канстытуцыі, да медатаў вырашэння ўладай эканамічных праблем, у выніку якіх жыццёвы ўзровень насельніцтва няўхільна падае. Выклікае абурэнне ў людзей жорсткасць улады да "злачынцаў" — В.Старавойтава, якога, хворага, на судзе трымаюць у жалезнай клетцы, да В.Лявонава, А.Клімава, У.Кудзінава, Т.Віннікавай, У.Плешчанкі, якіх спачатку арыштоўваюць, а потым шукаюць віну. Ды на працягу многіх месяцаў не могуць знайсці...

Няма адзінства ў грамадстве ў адносінах да нацыянальнай ідэі, дзяржаўнасці, незалежнасці, бо многія прывыклі жыць у "вялікай сям'і рэспублік свабодных" і, не ведаючы сваёй гісторыі, адмовіліся ад мовы продкаў. Другія вызначаюцца глыбокімі патрыятычнымі пачуццямі, высока цэняць нацыянальныя каштоўнасці: герб, сцяг, родную мову, багатую гісторыю Беларусі, яе дзяржаўнасць, суверэнітэт. Яны актыўна адстойваюць нацыянальна-дэмакратычныя каштоўнасці і інтарэсы Бацькаўшчыны. Гэта свядомыя, сапраўдныя, годныя грамадзяне — незалежна ад іх нацыянальнасці.

Усе мы жывём разам на гэтай зямлі, і ўсім трэба ёю даражыць і берагчы яе. А не дзяліць на "чэсных" і "нячэсных", сваіх і чужых. Мы — сыны адной маці, і любіць яе трэба пасыноўску, а не "здаваць у арэнду" чужому дзядзьку. Тады і лад будзе ў нашай беларускай хаце.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**ветэран педагагічнай працы.**
г.Ашмяны.

## 53 працэнты мінчан не вераць у тое, што парламенцкія выбары 2000 года ў Беларусі будуць свабоднымі і справядлівымі

Падчас чарговага вывучэння грамадскай думкі мінчан, праведзенага 12—15 жніўня сацыялагічнай службай "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, дарослым жыхарам беларускай сталіцы было прапанавана адказаць на пытанне "Ці верыце вы ў тое, што парламенцкія выбары 2000 года і Беларусі будуць свабоднымі і справядлівымі?".

Больш за палову (53 працэнты) з 600 рэспандэнтаў адказалі: "Не, не веру". У свабодныя і справядлівыя парламенцкія выбары ў Беларусі вераць усяго 23 працэнты апытаных мінчан. Кожны чацвёрты — 24 працэнты — не змог выказаць сваё меркаванне. Больш за трэцюю частку — 36 працэнтаў — адказаўшых на пытанне "Як вы лічыце, атрымаюць ці не атрымаюць палітычныя партыі, асобныя, у тым ліку і апазіцыйныя, кандыдаты ў дэпутаты магчымасць выступаць па дзяржаўных тэлебачанні і радыё?" лічаць: "Фармальна атрымаюць (гэта азначае малы аб'ём часу, толькі на радыё, у нязручны — ранні або позні — час сутак і г.д.)". 22 працэнты рэспандэнтаў лічаць, што апазіцыя зможа выкарыстаць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, 21 працэнт упэўненыя ў адваротным. Столькі ж апытаных — 21 працэнт — не змаглі адказаць на прапанаванае пытанне.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ.**

## Імпарт у Беларусь скараціўся на трэць

Аб'ём знешняга гандлю Беларусі ў першай палове 1999 года склаў 5 929,3 мільёна долараў ЗША. Пра гэта паведамляе Міністэрства статыстыкі і аналізу. Такім чынам, знешнегандлёвы абарот краін скараціўся ў параўнанні са студзенем—чэрвенем 1998 года на 27,1 працэнта, у тым ліку экспарт — на 20,9 працэнта, імпарт — на 32,1. Сальда — адмоўнае ў памеры 195,9 мільёна долараў ЗША.

У экспарце найбольшае зніжэнне паставак адбылося па наступных пазіцыях: чорныя металы і вырабы з іх (на 37,1 працэнта), прадукцыя лёгкай (на 27,7) і харчовай (на 25,1) прамысловасці; у імпарце — паліва і энергетыка (на 39,7 працэнта), машыны, абсталяванне і транспартныя сродкі (39,2).

Удзельная вага бартэрных аперацый у першай палове 1999 года дасягнула 34,4 працэнта агульнага аб'ёму імпарту і 37,6 працэнта — экспарту.

Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў гэты перыяд былі Расія (на гандаль з ёю прыпадала 53,8 працэнта ўсяго аб'ёму тавараабароту), Германія (8,1 працэнта), Украіна (5,5), Польшча (3,4), Латвія (2,7), Літва (2,4), Італія (1,9) і Кітай (1,5 працэнта).

**Сяргей СНЕГІН.**

## Паводле слоў старшыні Дзяржкамдруку Беларусі, у бліжэйшыя два гады ў мадэрнізацыю паліграфічнай прамысловасці будзе ўкладзена каля 10 мільёнаў долараў ЗША

Выступаючы на прэс-канферэнцыі, М.Падгайны паведаміў, што, у адпаведнасці з распараджэннем Лукашэнкі аб падтрымцы мясцовага друку, Савет міністраў прыняў прапанаваную Дзяржкамдрукам праграму мадэрнізацыі паліграфічнай галіны.

Дакумент прадугледжвае правядзенне сёлета рэканструкцыі Барысаўскай і Баранавіцкай друкарняў, для чаго з дзяржбюджэту выдзелена 48 мільярдаў рублёў і яшчэ 48 мільярдаў — з бюджэтаў Брэсцкай і Мінскай абласцей. Гаворачы пры якасць айчыннай паліграфіі, М.Падгайны звярнуў увагу на прадукцыю выдавецтва "Юнацтва", якое ад выпуску "шэранькіх", тоненькіх, танных кніг для дзяцей і падлеткаў перайшло да выпуску прыгожых кніг беларускіх казак і аповесцяў на поўнакаляровай мелаванай паперы, якія карыстаюцца, нягледзячы на высокі кошт, вялікім попытам.

Закрануўшы пытанне ўдасканальвання заканадаўчай базы і праблем беларускага кнігадрукавання, М.Падгайны заўважыў, што ў снежні бягучага года гэтыя тэмы будуць абмяркоўвацца на пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў. "Мы разумеем неабходнасць падтрымкі беларускамоўнай кнігі ў цяперашніх умовах расійскага крызісу, калі змяніліся расцэнкі на кніжную прадукцыю з-за росту цэн на выходныя паліграфічныя матэрыялы", — падкрэсліў М.Падгайны.

**Марат ГАРАВЫ.**

## 12-гадовы хлопчык скончыў жыццё самагубствам з-за таго, што маці адмовілася купіць яму новыя красоўкі

Гісторыя, жудасная па сваёй сутнасці, адбылася днямі ў Брэсцкай вобласці. 12-гадовы школьнік, вучань адной з мінскіх школ, скончыў жыццё самагубствам з-за таго, што маці... адмовілася купіць яму новыя красоўкі.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, трагедыя адбылася ў Ружанах — невялікім старажытным гарадку Пружанскага раёна, дзе падлетак знаходзіўся на канікулах. Самагубству папярэднічаў канфлікт з маці, якая прыехала ў Ружаны за сынам. Ён адбыўся з-за красовак. Новы абутак, які маці падрыхтавала хлопчыку да школы, проста не спадабаўся яму. Падлетак пачаў капрызнічаць, у адказ на што маці абурылася і адмовілася ўзяць яго з сабой у краму. Вярнуўшыся, жанчына не надта шукала сына — ён мог быць у сяброў. Аднак позна ўвечары перапужаныя адсутнасцю дзіцяці маці і прабабка сталі шукаць яго і знайшлі павешаным на гарышчы хаты.

Пружанская раённая пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па артыкуле 105 Крымінальнага кодэкса РБ — "давядзенне да самагубства", паколькі згодна з загадам генеральнага пракурора Беларусі ў выпадку суіцыду непаўналетніх гэта з'яўляецца абавязковым.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**Крымінал**

## Супрацоўнікам міліцыі ўдалося ўстанавіць асобы падлеткаў, якія ўчынілі акт вандалізму на могілках

Супрацоўнікам міліцыі ўдалося ўстанавіць асобы пяці падлеткаў — жыхароў Пінска, якія падазраюцца ва ўчыненні акту вандалізму. На могілках вёскі Паняцічы Пінскага раёна быў учынены пагром, у выніку якога пацярпелі 41 помнік і 2 крыжы. Па гэтым факце была ўзбуджана крымінальная справа.

Як паведаміў БелаПАН супрацоўнік крымінальнага вышуку Пінска Міхаіл Халадовіч, узрост падазроных — ад 14 да 17 гадоў. Следству ўдалося высветліць, што ў бацькоў аднаго з падлеткаў у Паняцічах знаходзіцца лецішча, менавіта ён сабраў сяброў для "загараднага адпачынку". Моцна выпіўшы, кампанія адправілася на могілкі, дзе стала таптаць магілы, пераварочваць і ламаць помнікі, зносіць крыжы.

Паводле слоў М.Халадовіча, хаця ўдзельнікі пагрому ўстаноўленыя, не ўсіх пакуль затрымалі і дапыталі. Следству таксама вядома, хто прадаваў непаўналетнім спіртное. Што падштурхнула падлеткаў да акту вандалізму, пакуль ніхто растлумачыць не можа, у тым ліку і яны самі. Нарэшце, паколькі ўсе ўдзельнікі групы непаўналетнія, пакаранне для іх, верагодна, строгім не будзе.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Дэфіцыт айчыннай гарэлкі

У жніўні жыхары Магілёва сутыкнуліся з дэфіцытам таннай айчыннай гарэлкі ў мясцовых крамах. Што да экспартных варыянтаў саракаградуснага напоя, то яны па кішэні далёка не ўсім.

Магілёўскія "гарэлачныя" перабоі спецыялісты тлумачаць дэфіцытам збожжа на спіртазаводах вобласці і, як вынік, дэфіцытам спірту на Клімавіцкім лікёра-гарэлачным заводзе. Менавіта з-за гэтага прадпрыемства зараз працуе толькі на палову сваёй магутнасці.

У той жа час заводы вобласці практычна выбралі гадавую квоту ў 1 мільён 590 тысяч дэкалітраў, выдзеленую на вытворчасць пладова-ягаднага віна. Просьба аб выдзяленні магілёўскім вытворцам "моцных" напояў дадатковай квоты ў 1 мільён дэкалітраў пакуль застаецца без адказу.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Беларусь закупіць у Расіі партыю знішчальнікаў МіГ-29

Беларусь закупіць у Расіі партыю знішчальнікаў МіГ-29, якія павінны быць пастаўленыя Ваенна-паветраным сілам краіны да канца бягучага года. Кантракт на пастаўку баявых самалётаў быў заключаны 18 жніўня на IV Міжнародным авіякасмічным салоне, які праходзіць у падмаскоўным горадзе Жукоўскі.

Пра падпісанне кантракту паведаміў генеральны дырэктар расійскай дзяржаўнай кампаніі "Росвооружение" — пастаўшчыка самалётаў — Аляксей Агароў. Сума кантракту, роўна як і механізм аплаты, не абвяшчаецца. Пакуль таксама невядома, пра колькі баявых самалётаў ідзе размова; паводле непацверджанай інфармацыі, іх можа быць сем.

Зараз на ўзбраенні беларускай арміі знаходзяцца як МіГ-29, так і баявыя самалёты іншых тыпаў (Су-27, Су-24 і інш.); усяго каля 250 адзінак. Згодна з Дагаворам аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, Беларусь можа мець не больш за 294 баявыя самалёты.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**Как там у них...**

# Узники техасской тюрьмы

Хантсвилл — городок в американском штате Техас, почти сплошь состоящий из небольших краснокирпичных домиков. Моросит мелкий дождичек. К воротам старейшей в Техасе тюрьме подъезжает похоронная машина. О ее прибытии охрана уже уведомлена, "катафалк", как его иной раз именуют здесь, медленно вползает в открывшиеся ворота и припарковывается у жилища смертников, низкого здания, чем-то напоминающего бункер и огражденного проволочным заборчиком более чем в рост человека. Забор покрыт плотным просмоленным брезентом. Сюда после прибытия "катафалка" вот-вот должны подойти те, кто имеет отношение к сегодняшнему обитателю жилища смертников и уже прибыли на территорию тюрьмы. Нежелательно, чтобы они, подходя к бункеру, сразу увидели перед собой похоронную машину.

"Мы здесь все продумали и проработали до тонкостей, на уровне истинной науки", — не без мрачного юмора говорит Ларри Тодд, служитель тюрьмы, отвечающий за связи с общественностью.

### Рекорды

С 1992 года, когда исполнение смертных приговоров в Техасе начало набирать обороты, в Хантсвилле казнили более 120 узников путем применения смертельных инъекций. Здесь было совершено больше смертных казней, чем где бы то ни было в Соединенных Штатах с момента, когда Верховный суд страны в 1976 году одобрил восстановление высшей меры наказания.

В ночь на понедельник "пассажиром" похоронной машины стал 40-летний Дэниэл Ли Корвин, серийный убийца, сознавшийся в своих преступлениях. В ночь на вторник "катафалк" забрал Джеффа Эмери, ему было 39. Состав преступления — изнасилование во время грабежа и убийство. В среду в последний путь на том же "катафалке" отправился Дэнни Ли Барбер 43 лет, также совершивший убийство с целью грабежа. А в четверг с нагрузкой трудившаяся похоронная машина забрала Джозефа Стэнли Фоулдера 61 года, гражданина Канады, зверски убившего пожилую женщину. Кстати, канадские власти заявили, что обвиняемого следовало освободить, поскольку ему не гарантировали право обращения к консулу Канады после ареста полицией Техаса. Как сообщило агентство Ассошиэйтед Пресс, техасские судебные власти отклонили просьбу Фоулдера об отсрочке исполнения смертного приговора на 90 дней с заменой его тюремным заключением. В ночь на четверг приговоренного казнили.

Похоронной машине в хантсвиллской тюрьме работы хватает. Здесь с 1924 года приводятся в исполнение смертные приговоры, вынесенные в Техасе. Именно тогда администрация штата взяла казни под свой контроль. Ранее прерогатива в столь мрачном деле принадлежала шерифам, на местах представлявшим судебную власть.

Передышку в исполнении смертных приговоров на исходе минувшего года сделали лишь на рождественские и новогодние праздники. Но уже в январе были приведены в исполнение 7 казней, причем три из них день за днем.

Хотя Техас уверенно лидирует по числу "вышек", в США он далеко не исключение. С того момента, как в штате Юта в январе 1977 года был расстрелян Гарри Гилмор (что положило конец десятилетней передышке в совершении казней в масштабах всей страны), 439 человек в Соединенных Штатах получили высшую меру. А уже упоминавшийся Джефф Эмери стал 163-м узником, казненным в Техасе с 1982 года. Именно в тот год в указанном штате совершилась первая смертная казнь в рамках нового положения о смертных приговорах, которое Верховный суд страны одобрил в 1976 году.

### Миллиарды на новые тюрьмы

Техас не останавливается перед громадными расходами на сражение с преступностью. За последние годы штат израсходовал 2 миллиарда долларов на строительство новых тюрем, что обеспечивает большую безопасность законопослушным гражданам. Проблемы содержания узников? Это проблемы второго плана. И сей аргумент находит положительный отклик среди большинства техасцев.

Техас, кстати, занимает первое место в стране по числу арестов и случаев препровождения арестованных за решетку. Техасцу в семь раз чаще, чем, скажем, жителю штата Миннесота, "светит" оказаться на полном довольствии государства — то есть в тюрьме. И жесткий подход техасских властей к обеспечению правопорядка (вне всякого сомнения, с этим связано и хорошее положение дел в экономике) доказывает свою эффективность. За последние 20 лет преступность в штате "Одинокой звезды", как называют Техас, удерживается на самом низком уровне. Год назад, с гордостью заявляют местные политические деятели, статистика преступлений упала на 10 процентов в сравнении с соответствующим периодом предшествующего года.

Сторонники и противники казней способны, по сути дела, лишь теоретизировать на тему о том, почему Техас идет на непреклонное исполнение смертных приговоров, если так можно выразиться, с легким сердцем. Некоторые полагают, что поскольку соответствующие законы штата, четкие и целеустремленные, исключают двусмысленные толкования, Техас оказался в стороне от призывов запретить смертную казнь, которые звучат в других концах Америки, там, где она не предусматривается местным законодательством.

Высказываются и другие мнения. Судебные власти Техаса, его юристы в большей степени, чем их коллеги в других штатах Америки, поддерживают идею вынесения смертных приговоров. Губернатор Техаса Джордж Буш и многие политические деятели штата выступают за жесткое применение казни. Представители губернатора квалифицируют этот подход как "составной элемент эффективного проведения политики в сфере уголовного законодательства".

Тем не менее 23 года спустя, после того как Верховный суд Соединенных Штатов вновь открыл двери в камеры смертников, противники жесткой меры не устают повторять — казнь нравственно ошибочна, неприемлема с точки зрения конституции, и ее невозможно применять с должным коэффициентом справедливости. Черные, говорят они, составляют всего 13 процентов от населения страны, но среди заключенных американских тюрем их более 40 процентов, и преступника, вне зависимости от его расовой принадлежности, бесспорно, скорее приговорят к смерти за убийство белого, нежели человека с иным цветом кожи.

### Казнить, нельзя помиловать

Сторонники казней, как и в прошлом, отвечают: смертный приговор убийце нравственно оправдан и в контексте верности принципам конституции вполне разумен, а черные пропорционально главенствуют среди казненных, потому что на их счету — почти половина совершенных в стране убийств, и на каждое исследование, доказывающее несправедливость смертных приговоров, есть исследование, утверждающее обратное.

Год за годом, десятилетие за десятилетием идут дискуссии, в ходе которых одна сторона уверяет, что смертные приговоры сдерживают преступность, а другая отрицает это.

В своей массе, однако, американцы поддерживают идею высшей меры наказания. Опросы последних лет постоянно свидетельствуют, что от 70 до 80 процентов жителей страны выступают за применение казней. Те же опросы, кстати, обнаруживают, что и большинство черного населения Соединенных Штатов придерживается аналогичного мнения.

В день, когда пробил последний час в земной жизни Дэниэла Ли Корвина, Ларри Тодд сказал мне, что все служащие тюрьмы, участвующие в процессе казни, — надзиратель, священник, те, кто привязывает приговоренного, и те, кто вводит ему иглы в вены для впрыскивания смертоносного вещества, — далеко не новички в своем деле.

"Я никогда не употреблю слова "рутина", коль скоро речь идет об уходе из жизни человеческого существа, — заметил Тодд. — Но все люди, о которых я говорил, — профессионалы и знают свое дело досконально".

Дэниэл Корвин, плотник по профессии, стал 446 узником-смертником хантсвиллской тюрьмы. Лишь Калифорния, имеющая на своем счету 513 приговоренных к смерти, опережает Техас. Кстати, на территории последнего функционирует и еще одна тюрьма, где содержатся семь женщин, приговоренных к высшей мере наказания.

Дэниэла Корвина препроводили в специальную камеру жилища смертников. В нескольких футов от него — часы. У него сняли отпечатки пальцев. "Это необходимая операция", — говорит Ларри Тодд, — нужна стопроцентная уверенность, что перед нами именно тот самый заключенный".

Примерно в 4 часа пополудни Дэниэл Корвин пообедал последний раз в своей жизни. Ему принесли бифштекс с жареной картошкой и зеленым горошком. На десерт он получил кекс.

Священник и охранники оставались с ним на протяжении всего дня. Остальные тюремные служители заходили в камеру по мере надобности.

Дэниэл Корвин — белый американец, как и 37 процентов приговоренных к смерти жителей Техаса. Черные составляют в этом списке 42 процента, лица испанского происхождения — 20. В общенациональном масштабе на долю белых приходится 47 процентов от 3517 приговоренных к смерти граждан страны, согласно данным Информационного центра по смертным приговорам (эта организация выступает против применения высшей меры наказания). Черные американцы, по информации центра, составляют 42 процента от упомянутой выше цифры, граждане испанского происхождения — 8 процентов.

Отменяя в свое время высшую меру наказания, Верховный суд исходил из того, что смертные приговоры зачастую выносятся без должного учета всех обстоятельств, под влиянием соображений случайного характера, при отсутствии четкой характеристики преступления, за которое человека приговаривают к смерти. Принималось во внимание и то, что национальные меньшинства имели на своем счету явно несоразмерно большое число смертных приговоров. И нигде это не получало столь красноречивого подтверждения, как в Техасе, если верить авторам исследования "Веревка, электрический стул и игла". Речь идет о статистическом анализе ситуации, связанной с применением высшей меры наказания в указанном штате. Упомянутое исследование увидело свет в 1994 году.

С 1924 года, когда в Техасе для смертной казни начали использовать электрический стул, и до 1964-го, когда ему на смену пришли более современные вливания, в штате казнили 361 узника, 63 процента приговоренных к высшей мере наказания составили черные американцы.

### "Сожалею о содеянном..."

В свой последний день Дэниэл Ли Корвин перешел в камеру для исполнения приговора в сопровождении тюремного надзирателя, священника и тех служителей, которые привязывают заключенного перед казнью. Через минуту он уже был привязан.

Из соседнего помещения через отверстия в стене к месту, где находится смертник, ведут две трубки — для внутривенного вливания. Иглы введены в обе руки приговоренного. Тюремный катафалк уже наготове. В одном из помещений, откуда видно происходящее в камере для исполнения приговора, — двое друзей приговоренного. В другом — родственники трех женщин, которые погибли от руки преступника.

"Я сожалею о том, что произошло, и хочу, чтобы вы знали об этом, — сказал Дэниэл Корвин в микрофон, висящий над его головой, перед тем как смертоносной жидкости в трубках был дан зеленый свет. — Надеюсь, что когда-нибудь вы сможете простить меня. Думаю, что без этого все бессмысленно, и тогда останутся лишь ненависть и отчаяние".

В 6.33 вечера было объявлено, что Корвин мертв. Тело казненного отвезли к катафалку.

**Пол ДУГГАН.**

